100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Сцягі на балконах

Помніце легендарнага Мірона, які вывешваў бел-чырвона-белыя палотнішчы ў маладаступных месцах? Сцягі з'яўляліся то на сталічнай тэлевежы, то на заводскім коміне, то на лініі высокага напружання. Ніхто ніколі не бачыў адважнага сцяганосца, яго ведалі толькі па аўтографах, якія ён пакідаў пры сцягах. Мастак Аляксей Марачкін нават партрэт таго Мірона намаляваў, але безаблічна, са спіны.

Добра, калі зерне падае не на камень, – сёння ў Мірона масава з'яўляюцца паслядоўнікі па ўсёй Беларусі. І іх усё большае. Не, яны не лезуць на злом галавы на вежы і коміны, яны вывешваюць нацыянальныя сцягі на ўласных балконах. Тым самым дэманструючы сваю салідарнасць з тымі, хто дамагаецца палітычных змен у краіне. Такія выпадкі лічацца ўжо на дзясяткі – яны зафіксаваны ў сталіцы і ва ўсіх абласных гарадах, маюць месца і ў раённых цэнтрах.

Шматпавярховік са сцягам выглядае ўражліва, яго відаць здалёк. Такі дом-сцяганосец я бачыў на ўласныя вочы ў мінскім мікрараёне "Новая Баравая" – "зашторыны" бел-чырвона-белым палотнішчам (метраў на 5!) балкон на 11-м паверсе кідаўся ў вочы за кіламетр.

Відаць, камусьці пасля перадвыбарнага недасыпу той дом падаўся мітынговай плошчай, пастаўленай "на папа". І – пайшло змаганне са сцягамі на балконах. На вуліцы Гая ў Мінску пад балкон тэрмінова падагналі аўтавышку, на Смаргоўскім тракце гаспадароў балкона звінавацілі ў самавольным змяненні фасада дома, у Віцебску ўвогуле дайшло да кур'ёзу – нейкі няйнакш блізарукі ахоўнік правапарадку палічыў сцягам… тры майкі, што сохлі на вяроўцы, – белую, чырвоную і белую. Майкі, правёўшы іх дэталёвы агляд, міліцыянеры забіраць не сталі, а сцягі ў Мінску канфіскавалі. Прычым без абавязковых у падобных выпадках пратаколаў, без уцямнага тлумачэння, які закон і ў якім месцы парушаны.

Прабачце, сцяг – гэта маёмасць, ён каштуе грошай (сам купляў у афіцыйна зарэгістраванай краме за 20 рублёў), і забіранне яго міліцыянерамі з прыватнай тэрыторыі без дакументальнага афармлення можна назваць толькі адным словам – крадзеж.

Начальнік Цэнтральнага РАУС горада Мінска палкоўнік Артур Шахлай, Смаргоўскі тракт і вуліца Гая знаходзяцца пад вашай апекай. Вы ведаеце, што сярод Вашых падначаленых з'явіліся зладзеі, якія лазяць па балконах законапаслухмяных грамадзян і крадуць тканіну (колер у дадзеным выпадку не мае значэння)? Разумеючы, што дзейнічаюць антызаконна, яны не пакідаюць ніякіх папяровых доказаў, бо разумеюць: за крадзеж ім давядзецца адказваць. А калі вашы падначаленыя потым прызнаюцца, што лазілі па чужых балконах не па сваёй волі, то ў ліку зладзеяў можаце апынуцца і вы, палкоўнік Шахлай. Палкоўніцкія пагоны і дробны крадзеж – смеху варты канец кар'еры можа атрымацца.

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што асобныя міліцыянеры (напрыклад, у Гродне) вядуць сябе карэктна і толькі папярэджваюць уласнікаў сцяганосных балконаў, што кагосьці з суседзяў раздражняе бел-чырвонае спалучэнне колераў. Але ці мала што кагосьці раздражняе? Мне, напрыклад, дужа не падабаецца чырвоны савецкі сцяг над сталічным Музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Ці – герб БССР на Магілёўскім аблвыканкаме. Але ж я не лезу па лесвіцы на дах таго музея і не збіваю з рагаткі той герб! Хоць іхняе месцазнаходжанне на дзяржаўных установах, хачу гэта падкрэсліць, не рэгламентуецца ніякімі афіцыйнымі дакументамі.

Не рэгламентуецца адміністрацыйным кодэксам і тое, што́ я маю права вывешваць на ўласным балконе. Хачу – вешаю кашулю для прасушкі, хачу – плакат з Кастусём Каліноўскім, хачу – сцяг, які чатыры гады быў дзяржаўным сімвалам Рэспублікі Беларусь. І пакуль заканадаўства не дабралася да майго балкона (не выключана, што з цягам часу дабярэцца), ніхто не мае права наводзіць там свой парадак – здымаць кашулю, плакат або сцяг.

Ісці ці не ісці на чарговую Плошчу – асабістая справа кожнага. Падстаўляць пад дубінкі галаву варта далёка не заўсёды. Але любы з нас можа дадаткова зрабіць сваю ўласную плошчу пратэсту, плошчу новай Беларусі, плошчу нацыянальнай еднасці дома – вывесіўшы бел-чырвона-белы сцяг на сваім балконе. Ні на літару не парушаючы дзейнага заканадаўства.

Я гэта зрабіў. Сцяг вісіць. Яго штодзень бачаць сотні людзей – пад маім балконам праходзіць дарожка да метро. І аўтавышкі пад вокнамі пакуль не відаць.

ПЕРСОНА

# «У меня роман за романом. И я никогда не опровергаю эти слухи»



**Маргарита Левчук** – единственная певица классического репертуара, кто выступал на предвыборном митинге-концерте кандидата в президенты Светланы Тихановской в Бресте. Единственная оперная певица, которая открыто в социальных сетях критиковала ОМОН, милицейскую жестокость. Единственное белорусское сопрано, кто стал финалистом популярнейшего телевизионного конкурса «Большая опера» (2017). Да и во многом другом наша Маргарита – единственная и неповторимая. К ней очень быстро пришла известность. Сразу после окончания Академии музыки она легко поступила на службу в Большой театр, а потом легко оставила его намоленную сцену, как только почувствовала «нескромное обаяние системы». Внешне она как птичка-колибри: маленькая, яркая и трепетная. А характер, как я убеждалась не раз, словно стальной жгут.

**– Итак, почему вы больше не работаете в Большом театре?**

– Это было мое единоличное решение. Никто меня не вынуждал уходить, не подталкивал в спину. Но я изначально не видела себя в системе, она мне была чужда. У меня всегда есть своя четкая позиция, и я ее не скрываю. Меня в Большом театре не устраивает зарплата, не устраивали редкие выходы на сцену в спектаклях. А чтобы их получать регулярно, некоторые артисты носят подарки «кому следует». И уроки с концертмейстером тоже надо выпрашивать. А я не дружу потому, что «надо». Понимаете? Я с детства говорю правду. Но самую главную фразу, из-за чего покинула Большой, я все-таки приберегу на потом.

**– Если обобщить, то ваш независимый характер не пришелся там ко двору? Закулисье театра очень консервативно…**

– Да. Однажды дирекция даже не разрешила опубликовать мое интервью. Журналисты передали, что им «позвонили и рекомендовали». А что я говорила? Что прежде, чем я поехала на программу к Сати Спиваковой (канал «Россия–Культура»), меня пригласили в нашу дирекцию и провели разъяснительную беседу, как и что говорить о Большом театре Беларуси: «Вы же умная девушка…» Политинформация... А я еду-то всего лишь, чтобы поговорить о конкурсе «Большая опера», в котором только что закончила участие!

**– Это было еще в 2017 году, генеральным директором Большого театра был Владимир Иванович Гридюшко. Вы тогда стали финалисткой «Большой оперы», этого очень популярного телевизионного конкурса. Мы все болели за вас, Маргарита!**

– А однажды меня вообще отстранили от работы. Все певцы в театре раз в три года проходят медосмотр, причем бесплатно. Так как я работала на полставки, меня освободили от медосмотра. Я спокойно живу, а потом вдруг узнаю, что отстранена от работы… из-за отсутствия справки! Я была в шоке. Неужели я враг самой себе и не пошла бы к врачу? В общем, выговор, еще и на доску объявлений его повесили. Короче, накапливалось, накапливалось, и в марте я взорвалась.

**– Но работать в оперном театре мечтает любая певица, правда?**

– Да, театр – это очень хорошо. Но жаль, что у нас он всего лишь один. И что прикажете делать всем другим «оперникам», у которых нет карьеры за рубежом? Молчать, соглашаться со всем, плакать каждый раз от своей зарплаты и «дружить», вернее, просить для себя спектакли.

**– А сколько получает солистка Большого театра в месяц? Наверное, это зависит от того, сколько раз артистка вышла на сцену?**

– Да, но за выходы идет настоящая война. А мои полставки – это было триста рублей.

**– Кстати, у вас есть в Минске собственная квартира?**

– Нет, снимаю.

**– Значит, не напели еще на свою жилплощадь?**

– Уже бы напела, если бы не пандемия.

**– Ну, у вас есть такой могучий «паровоз», как импресарио Алесь Чаховский, руководитель Музыкального Дома «Классика», так что и работа будет.**

– Конечно. Я в «Классике» чувствую себя прекрасно.

**– А можно спросить про вашу личную жизнь?**

– Вы разве не знаете? У меня роман за романом. И я никогда не опровергаю эти слухи.

**– Будьте осторожны…**

– Это театр, ничего не поделаешь. Мне приписывают их такое количество, что я поняла: лучше всем поддакивать – чтобы довести до абсурда.

**– Ну, сами виноваты: талантливая, яркая и не замужем.**

– А кто знает? Никто ведь ничего не знает! И я ничего не скажу.

**– Не боитесь, что за вашу честную позицию во время прошедших выборов вам перестанут предоставлять концертные площадки?**

– Да сняли тут же с одного концерта на заводе. Предприятие чествовало своих сотрудников, и сначала заказ был на меня. А потом позвонил идеолог…

**– А где вы будете теперь зарабатывать? У вас есть, как говорится, план Б?**

– У меня уже в октябре спектакли в Вильнюсе. Наклевывается Каунас. Остальные театры Европы пока просто закрыты: а вдруг придет вторая волна коронавируса? Так что живу пока сегодняшним днем.

**– Перфекционизм – это хорошо или плохо? Вы не боитесь совершать ошибки?**

– Нет. Мне кажется, я их постоянно совершаю. И на них учусь.

**– Вы очень интересно, смело проявились во время карантина, когда придумали себе народный образ бабы Риты и регулярно выступали с ним в соцсетях. Не побоялись снять оперную «корону» и не прогадали: публика вас приняла на ура! Как это получилось?**

– Спонтанно. Но народу, правда, понравилось. Мы и дальше отсняли сюжеты, но пока не время ставить новые посты. Подождем. Со мной работает целая команда друзей и родственников. Все на волонтерских началах: трактора, машины, провизию бесплатно доставляют.

**– Как ваша семья относится к вашей твердой политической позиции?**

– После моего заявления в соцсетях мнения в большой семье разделились, так скажу. Я отношусь к этому спокойно, время покажет, кто прав. Просто мне будет их потом очень жаль, когда они по государственным же телевизионным каналам узнают всю правду. И поменяют свое мнение. Им будет очень больно.

**– В какой европейский театр вы хотели бы попасть в ближайшее время?**

– Очень понравился оперный театр во Флоренции Opera di Firenze. У меня был там контракт на участие в премьере оперы Верди «Травиата». Здание театра очень современное и снаружи, и внутри. И акустика классная. Не такая, конечно, как в Театре Алигьери в Ровенне, вот там – космическая акустика: поешь на пиано – и сам кайфуешь, что поешь на пиано.

**– Как вы думаете, с Флоренцией вы смогли установить долгосрочные связи?**

– А вот не знаю, там уже поменялся весь менеджмент. Опять придется ездить на прослушивание.

**– Сколько же можно прослушиваться?!**

– Постоянно. Все ездят, даже звезды. Это нормальная практика. Мой импресарио Алесь Чаховский внимательно следит за этим процессом: где и когда. Он сказал – я поехала. Я нацелена на успех, была бы физическая сила. А вы не представляете, какая я выносливая. Я даже могу петь, не поспав подряд три ночи.

**– Что бы вы хотели спеть очень-очень?**

– Мечтаю о «Манон» Масне – я влюблена в эту оперу. Я уже пробовала, партия Манон хорошо ложится на мой голос. Возможно, я и ошибаюсь, со стороны себя не услышишь, но я всегда нормально отношусь к критике. Пожалуйста, говорите, я буду исправлять!

**– А с кем вы занимаетесь?**

– У меня есть коуч, я время от времени прихожу к ней в класс. Еще слушаю много записей. К сожалению, сейчас из-за простоя у меня не такая форма, как была в марте, когда я вернулась из Флоренции после пяти спектаклей «Травиата». Я тогда сразу начала учить партию Розины, потому что в апреле должна была состояться премьера «Севильского цирюльника» в Софийской опере. И тогда почувствовала: вот она, наработанная форма! Сама ликовала. Я максимально была в голосе.

**– София сорвалась… Как жаль! А какие еще контракты пропали?**

– Ой, много! Фестиваль в Каунасе, череда концертов… У меня до февраля 2021 года все было расписано. И в одночасье обрубилось. Но я не сильно хандрила, появилось свободное время для чего-то нового.

**– У вас витальный характер, это здорово! На митинге у Тихановский вам платили за выступление?**

– Всё бесплатно! Я с радостью пришла и выступила. И никаких гонораров в сто миллионов долларов, как подозревают некоторые. И никто из артистов ничего не получал, все просто хотели быть полезными.

**– У нас нет института репутации, никто из артистов не боится замараться своим поведением – публика всё прощает. Ну, или почти всё. Да и ваша артистическая среда друг к другу весьма снисходительна.**

– Да, верно, и я буду здороваться со всеми. Но выводы сделаю. Всё на совести каждого, им самим с этим жить. Я, как, наверное, и все, очень хочу, чтобы этот год быстрее закончился и мы оставили ковид в прошлом. Но я все равно благодарна и пандемии, и предвыборной кампании – зато понятно, «ху из ху». Кто нормальной, а кто… С чревоточинкой. Все показали свое истинное лицо. Особенно власть.

**Елена МОЛОЧКО.**
**Фото: Слава ПОТАЛАХ.**

ЗАКУЛІССЕ

# ГАНЕБНАЕ СУДЗІЛІШЧА, альбо Назад у СССР

Навука сцвярджае, што падарожжы ў часе – гэта фантастыка. Нядаўна я пераканаўся, што ў сённяшняй Беларусі магчыма ўсё. Таму, калі ёсць жаданне вярнуцца ў СССР, на паўстагоддзя таму, – калі ласка, завітвайце на Фрунзе, 5 – у Дом літаратара, ад якога зараз засталася, бадай, адна назва. Бо каля каля ўваходу вас сустрэнуць шыльды на сцяне: «Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь», «Прыёмная кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі» і – так бы мовіць, «Саюз пісьменнікаў Беларусі».

У пазамінулы аўторак, 28 ліпеня, нас, падпісантаў ліста ў абарону **Анатоля Кудласевіча** «ласкава запрасілі» ў гэты будынак на так званае пасяджэнне прэзідыума Саюза пісьменнікаў. Гэта быў спектакль, адмыслова арганізаваны, каб дэ-факта, заднім чыслом, зацвердзіць выключэнне Анатоля Кудласевіча з саюза, хоць яно ўжо і адбылося раней. Канешне, пасля нашага звароту ў «Народную Волю» яны не маглі не адрэагаваць. Тэрмінова склікалі прэзідыум. Разаслалі лісты ўсім падпісантам.

Тое, што там адбывалася, інакш як словам «судзілішча» назваць немагчыма. Анатоля, шчырага, крыштальна сумленнага чалавека і пісьменніка, абвінавачвалі ва ўсіх смяротных грахах, пачынаючы ад нібыта выступлення на святочнай сцэне ў нецвярозым стане і заканчваючы нібыта абразамі беларускага народа. Калі шквал гэтага абсурду крыху аслабеў, Анатоль паспрабаваў сціпла апраўдацца: маўляў, людцы, я нічога гэтага не рабіў… Ён звярнуўся да прысутных: галоўнае, кажа, гэта чалавекам заставацца. І, не дачакаўшыся адэкватнай рэакцыі, эмацыйна шпурнуў на стол свой пісьменніцкі білет.

Нас, падпісантаў, таксама не маглі проста так пакінуць у спакоі. Адзін з памочнікаў **Мікалая Чаргінца, Анатоль Матвіенка,** няйначай «шэры кардынал», агучыў карпатліва назбіранае дасье на кожнага з нас. Аказваецца, мы – ворагі, нацыяналісты! Аналіз нашых старонак у «Фэйсбуку» паказаў, што мы – нядобранадзейныя грамадзяне. Са здзіўленнем мы дазналіся, што, аказваецца, кожны сябар Саюза пісьменнікаў павінен усёй душой падтрымліваць палітыку сённяшняга прэзідэнта. Дарэчы, адпаведны зварот у падтрымку дзеючай улады перад выбарамі выстаўлены на афіцыйным сайце СПБ.

Атмасфера напалялася. Як ініцыятар звароту, слова ўзяў я: распавёў прысутным, што калісьці, на пачатку 2000-х, у гэтым будынку мяне прымалі ў той, ранейшы, Саюз пісьменнікаў зусім іншыя людзі, класікі, вядомыя беларускія пісьменнікі. Я сказаў, што мне вельмі сорамна перад імі за тое, што тут адбываецца, хоць сённяшні саюз і не мае ніякага дачынення да той магутнай і ўплывовай творчай суполкі. І я сказаў, што хачу папрасіць у тых людзей прабачэння, хоць большасці з іх ужо і няма на гэтай зямлі фізічна, але іх магутная энергетыка засталася ў гэтых сценах.

Пасля мяне выступалі іншыя. **Мікола Адам**, адзін з падпісантаў, сказаў наступнае: «*Пісьменніка можна выключаць з творчага саюза толькі за адно: за прафнепрыдатнасць. Трэба глядзець не ў твар літаратара, а ў ягоны твор!*»

Складана процістаяць нахабству і хлусні, калі знаходзішся ў меншасці. Мы ведалі, куды ішлі, і здагадваліся, што будзе. Але спадзяваліся хоць на нешта чалавечае. Старшыня **Мікалай Чаргінец** звярнуўся да мяне: «*Як гэта так, вось вы, чалавек такіх апазіцыйных поглядаў, а працуеце ў газеце «ЛіМ», заснавальнікам якой выступае дзяржаўны Саюз пісьменнікаў?*» На гэта я адказаў, што ўласнікам і выдаўцом газеты «ЛіМ» зяўляецца не дзяржава і не пісьменніцкі саюз, а беларускі народ, які плаціць падаткі, што ідуць на выпуск тыднёвіка.

Я хацеў яшчэ дадаць, што калісьці «ЛіМ» выпісвалі і чыталі не толькі інтэлігенты, але і рабочыя і сяляне. Што менавіта на яго старонках раней з'яўляліся злабадзённыя, вострыя матэрыялы на грамадска-палітычныя тэмы. Што ў 1988 годзе менавіта ў «ЛіМе», наклад якога складаў тады каля 30 тысяч экзэмпляраў (для параўнання: сёння – 841 экз.), быў надрукаваны артыкул: «Курапаты – дарога смерці» Зянона Пазьняка, які паўплываў на светаўспрыманне цэлага пакалення і, па сутнасці, паклаў пачатак незалежнай Беларусі. Хацеў абурыцца, што даўно на дзяржаўным узроўні ідзе палітыка свядомага знішчэння часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Вожык», «Нёман» – некалі флагманаў літаратурнага жыцця Беларусі, наклады якіх цяпер мізэрныя, аб'ём малы, а ў супрацоўнікаў – жабрацкія заробкі.

…Хацеў сказаць, але мяне перапынілі, нават і слухаць не захацелі. Нас «ветліва» папрасілі пакінуць памяшканне, бо на парадку дня – іншыя пытанні. Я падняўся і сказаў, што не магу больш быць у гэтым Саюзе. Напісаў заяву аб выхадзе з арганізацыі, аддаў у прыёмную сакратарцы. І нібыта скінуў з душы велізарны цяжар. Бо гэта «членства» ціснула на мяне, не давала ўздыхнуць. Я ўпэўнены, што ў свабоднай краіне Беларусь, якой яна, веру, неўзабаве стане, больш не будзе месца такім «судзілішчам».

Калі я пісаў гэтыя радкі, прыйшло паведамленне, што 2 жніўня, у нядзелю, Анатоля Кудласевіча затрымалі. Раніцай, калі ён выгульваў сабачку, побач спынілася аўто, некалькі чалавек у цывільным схапілі яго і звезлі ў невядомым накірунку. З таго часу ні жонка, ні сыны Анатоля не могуць высветліць, што з ім здарылася і дзе ён знаходзіцца.

Вось гэта – твар сённяшняй улады, драпежны ашчэр, які яна паказвае сваім грамадзянам кожны дзень. Хачу звярнуцца да тых сарака членаў прэзідыума, якія падпісалі ганебны пратакол аб выключэнні Анатоля: вы – саўдзельнікі злачынства. Гэты факт ужо нішто не адменіць. Гісторыя помніць усё.

**Янка ЛАЙКОЎ.**

**P.S.** *Пасля таго як родныя Кудласевіча напісалі заяву пра знікненне чалавека, ім паведамілі, што яго адвезлі ў Жодзіна (вул. Савецкая, 22) на адбыццё 10 сутак.*

ЖАНЧЫНЫ З ЛЕГЕНДЫ

*Лічыцца, что важнейшымі справамі ў сусветнай гісторыі займаліся выключна мужчыны. Насамрэч роля жанчын не меней значная, праўда, да гэтай пары належным чынам не ацэненая.*

*Пісьменнік, грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч апавядае пра найбольш знакавыя ў беларускай гісторыі жаночыя постаці. Яны кахалі і былі каханымі, нярэдка выходзілі замуж за невядомых ім мужчын, ехалі на край свету, траплялі ў займальныя трыкутнікі, пераадольвалі ўсе згрызоты непадзеленага кахання. Бо на тое яны і жанчыны...*

*У сённяшнім нумары "Народнай Волі" – першы нарыс "Шлюбаванне не азначае "каханне".*

Анатоль БУТЭВІЧ

# ШЛЮБАВАННЕ НЕ АЗНАЧАЕ «КАХАННЕ»

Каб пераканацца, што без важнай і важкай ролі жанчын у еўрапейскай і сусветнай гісторыі многія яе старонкі заставаліся б белымі, давайце зазірнём за намітку часу, адхінем заслону забыцця. І тады здавалася б вядомая нам гісторыя заіскрыцца новымі гранямі, новымі фарбамі, якія часам яе шэры колер пераўвасабляюць у займальнае мастацкае палатно.

Жанчыны, як і іхняе жыццё, што, без перабольшання, стала легендай, часам атулены такімі міфамі і паданнямі, што і не зразумець – праўдзівая гэта асоба ці прыдуманая мудрымі казкатворцамі. Так, і залічаныя да ліку святых зямлі беларускай Еўфрасіння Полацкая, Юліянія Гальшанская, Сафія Слуцкая, Валянціна Мінская, і Рагнеда, і беларуская Жанна д'Арк Настасся Слуцкая, і дачка Вітаўта Вялікага Соф'я, якая стала жонкай маскоўскага вялікага князя Васіля I Дзмітравіча і маці Васіля II, і тутэйшыя выхаванкі, якія ўзышлі на польскі каралеўскі пасад, Альдона Гедымінаўна, Соф'я Гальшанская, Барбара Радзівіл, і паэтэса, арганізатар тэатра ў Нясвіжы Францішка Уршуля Радзівіл, і мецэнатка, прыхільніца беларускай справы на нашых землях, без якой не выйшаў бы адзіны прыжыццёвы паэтычны зборнік Максіма Багдановіча "Вянок", Магдалена Радзівіл, і многія іншыя справядліва сталі пазнавальнымі постацямі-сімваламі нашай зямлі.

Не, вядома, мы не будзем гаварыць выключна пра дзяржаўныя клопаты нашых гераінь. Жанчына заўсёды застаецца жанчынай: каханай, жонкай, маці – з усім багатым веерам асабістага жыцця, часам незвычайных і проста авантурных прыгод.

Не сакрэт, што дынастычныя шлюбы вялікалітоўскай знаці з іншаземцамі былі звыклай справай. Не сароме́ліся высокія пасольствы ехаць за трыдзевяць зямель, каб дамовіцца аб шлюбе з патрэбнымі людзьмі, калі гэтага вымагалі палітычныя абставіны і бяспека дзяржавы. А калі зірнуць з проста чалавечага пункту погляду? Гэта ж трэба было добра ведаць, дзе "растуць" жаніхі і нявесты, каб выбраць патрэбнага партнёра, стварыць патрэбную (палітыкам таксама) пару, удала паяднаць інтарэсы родаў, сямействаў і розных дзяржаў. Значыць, неабходна было пільна сачыць за жыццём суседзяў, за тым, што і як адбываецца на чужых землях. Складаная, скажу вам, работа.

Чаго толькі не бывала ў нашай гісторыі! Часта шлюбы вызначалі лёс зямель, а то і дзяржаў. І пачалося гэта ў тыя далёкія ад нас стагоддзі, якія і дагэтуль як след не даследаваны і не ўвасоблены ў мастацкія творы. У тым ліку тагачасныя шлюбныя справы.

Згадаем хоць бы князя тураўскага, а пазней і вялікага кіеўскага князя Святаполка Уладзіміравіча, які прыкладна ў 1013 годзе ажаніўся з дачкой польскага князя, а затым і караля польскага Баляслава Храбрага. Гісторыкі сведчаць, што сам Баляслаў у 1018 годзе, не атрымаўшы ад кіяўлян таго, на што спадзяваўся, і ўцякаючы ад іх, павёў з сабой у якасці наложніцы Прадславу, дачку князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча (Святога) і княжны полацкай Рагнеды, якая была другой з шасці жонак Уладзіміра. А ў гэты час Баляслаў ужо быў жанаты з іншай. Ды ўвогуле ў нашым старадаўнім Полацкім княстве было столькі загадкавага ў наладжванні сямейных адносін, што разгадваць і аналізаваць гэтыя таямніцы і падзеі давядзецца яшчэ многім даследчыкам цягам доўгіх гадоў.

Сын Яраслава Мудрага князь тураўскі і вялікі князь кіеўскі Ізяслаў быў жанаты з унучкай Баляслава I, дачкой караля польскага Мешка II Гертрудай (Аленай). Ягоны пераемнік – сын Мешка II і брат Гертруды кароль польскі Казімір I – у 1042 годзе ажаніўся з сястрой вялікага князя кіеўскага Яраслава Мудрага Дабранегай (у хрышчэнні Марыяй).



Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

А сын Казіміра I і Дабранегі кароль польскі Баляслаў II Смелы быў жанаты з дачкой трэцяга сына Яраслава Мудрага, вялікага князя кіеўскага Святаслава Яраславіча, Вышаславай.

Не менш цікавага і нават незвычайнага адбывалася і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Род вялікага князя і першага караля літоўскага Міндоўга меў надзвычай разнастайныя шлюбныя повязі. Усяго некалькі фактаў. Прыблізна ў 1251 годзе князь Даніла Раманавіч Галіцкі пасля смерці сваёй першай жонкі ажаніўся з пляменніцай Міндоўга – сястрой полацкага князя Таўцівіла. Дачку Міндоўга ў 1255 годзе аддалі за брата Рамана (сына Данілы Раманавіча) Шварна Данілавіча. Сам жа Раман меў у валоданні атрыманыя ад Міндоўга Навагародскае, Ваўкавыскае і Слонімскае княствы.

Даследчыкі адзначаюць пэўную складанасць адносін паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Залатой Ардой, асабліва на пачатку XIV стагоддзя. Адчуванне такой напружанасці, як ні дзіўна, сыходзіла найперш з залатаардынскага боку. Гэта разумеў тагачасны кіраўнік Улуса Джучы (Залатой Арды) мангольскі хан Узбек, які шукаў магчымасці паразумецца з гаспадаром Княства вялікім князем літоўскім Гедымінам. Так-так, сам Узбек-хан, якога сучаснікі цанілі вельмі высока, а арабскі пісьменнік Ібн Батута казаў, што "ён адзін з тых сямі цароў, якія найвялікія і наймагутныя цары свету"! І гэты адзін з самых магутных уладароў шукае паразумення з вялікім князем літоўскім, жадае палепшыць адносіны з ім і ліквідаваць супярэчнасці. Хіба не пра гэта сведчыць наступны эпізод? Хоць, як на мой погляд, эпізод гэты варты значна большага, а пры ўважлівым да яго стаўленні і справядлівай ацэнцы пра многае гаворыць і многае высвятляе ў тагачасных міжэтнічных адносінах не толькі на еўрапейскіх прасторах.

Сын маскоўскага князя Івана Каліты Сямён Горды меў першай жонкай дачку Гедыміна Аўгусту (у праваслаўі Настассю). Іхні надзвычай пышны шлюб адбыўся ў Маскве ў 1333 годзе, пра што паведамляе Сімяонаўскі летапіс. Звычайная з'ява? А гэта як паглядзець. Мне бачыцца ў гэтым больш важкі сэнс. Вядомая рэч, што гэты шлюб (дарэчы, як і многія тагачасныя) меў палітычную афарбоўку. Як мінімум ён закранаў інтарэсы трох дзяржаўных утварэнняў. Найперш, вядома, меў на мэце палепшыць маскоўска-вялікалітоўскія стасункі. Але не толькі. Гэты шлюб самым непасрэдным чынам датычыў Залатой Арды.

У той час маскоўскія князі бралі ў ардынскіх ханаў ярлык на княжанне, плацілі даніну. Арда не хацела і не магла страціць свайго ўплыву на маскоўскую палітыку. Таму ханы пільна сачылі за ўсімі стасункамі маскоўскіх князёў з іншымі этнасамі, асабліва з вялікалітоўцамі. Дык ці мог у такіх умовах адбыцца шлюб маскоўскага князя і вялікалітоўскай княжны без дазволу ардынскага хана? Наўрад ці. Не зразумеў бы хан Узбек такога кроку залежнага ад яго маскоўскага князя. Тым больш у дачыненні да не надта прыхільнага Залатой Ардзе Вялікага Княства Літоўскага. Такіх кантактаў Арда, мякка кажучы, не вітала. Згодна з тадышняй традыцыяй, бацька жаніха павінен быў прасіць рукі нявесты непасрэдна ў яе бацькі. Значыць, Іван Каліта мусіў сустрэцца з вялікім князем літоўскім Гедымінам. Сустрэўся, але са згоды хана Узбека.

Што стаіць за ўсімі гэтымі "рэверансамі", акрамя чыста шлюбных адносін? Вядома, палітычная выгада. Але для каго найперш? Мяркую, адразу для ўсіх трох суб'ектаў гэтай гісторыі. Іван Каліта мог разлічваць на спрыяльнае стаўленне Гедыміна да Маскоўскага княства. Як ні дзіўна, але на тое ж самае спадзяваўся і хан Узбек, толькі ў дачыненні да самога сябе. Яму вельмі было патрэбна нармалізаваць, кажучы сучаснай мовай, адносіны з ВКЛ, і найперш з самім гаспадаром Княства Гедымінам. Якім чынам? Усе трое станавіліся нібыта звязаныя адной ніткай – шлюбам Сямёна і Аўгусты.

Бацька Сямёна просіць дазволу ў хана Узбека і князя Гедыміна. Узбек, даючы такую згоду, выказвае свае адносіны да Каліты (не выпускае яго з-пад свае ўлады) і адначасова да Гедыміна, спадзеючыся, што ў выпадку чаго на паводзіны гаспадара Княства ў дачыненні да Залатой Арды здолее паўплываць Іван Каліта, а затым і ягоны сын Сямён Горды, які таксама не пазбаўляўся залатаардынскага падпарадкавання.

Такім чынам, гэты дынастычны шлюб наўпрост уплываў на маскоўска-вялікалітоўскія адносіны і стасункі паміж Залатой Ардой і ВКЛ. Можна без перабольшання казаць, што Масква і Арда (але таксама Польшча і Тэўтонскі ордэн) бачылі ў Княстве значную палітычную сілу, якая здольная была рэальна ўплываць на міждзяржаўныя адносіны не толькі ў сваім рэгіёне. А гэта давала пэўныя дывідэнды і самому вялікаму князю літоўскаму Гедыміну, умацоўвала яго лідарскія пазіцыі. Адначасова гэта сведчыла аб значнай і ўсё больш прыкметнай ролі ВКЛ. З Княствам мусілі лічыцца не самыя слабыя суб'екты тагачаснай гісторыі.

Гэты прыклад не адзіны. "Завочныя" шлюбы адбываліся даволі часта. Згадаем шлюбаванне Гедымінавых дачок: Эльжбеты – з сынам мазавецкага князя Баляслава II плоцкім князем Вацлавам, Офкі (Яўфіміі) – з галіцка-валынскім князем Юрыем II Баляславам. Дык ці не ўплывалі гэтыя шлюбы на ўзвышэнне ролі Княства і ягонага гаспадара? Ці не сведчылі пра жаданне многіх валадароў мець прыязныя адносіны з ВКЛ?

Ды якія б інтрыгі ні адбываліся на шлюбным полі, жыццё аказвалася большым інтрыганам, чым самі людзі. Сын Гедыміна Альгерд, вялікі князь літоўскі, меў за жонку Улляну Аляксандраўну – дачку вялікага князя цвярскога Аляксандра і сястру вялікага князя цвярскога Міхаіла Аляксандравіча; шлюб адбыўся ў 1350 годзе. З дачкой вялікага князя маскоўскага Івана III Васільевіча Аленай быў жанаты ўнук Ягайлы вялікі князь літоўскі з 1492-га і кароль польскі з 1501 года Аляксандр Казіміравіч. Шлюб адбыўся ў 1494 годзе, што паклала канец руска-літоўскай вайне 1487–1494 гадоў. Аднак Алена і ў шлюбе заставалася праваслаўнай, з-за чаго палякі не хацелі каранаваць яе на каралеву.

І ўсё ж такі варта прызнаць, што і пры палітызаваным падыходзе да шлюбавання нікуды не знікала рэальнае каханне. Прытым моцнае і часам нават авантурнае. Хіба не пра тое сведчыць шлюб вялікага князя літоўскага Кейстута з Бірутай – язычніцкай жрыцай-вайдэлоткай з літоўскага капішча Пяркунаса каля Палангі? Згодна з тадышняй традыцыяй, яна мусіла сцерагчы святы агонь Зніч і не займацца ніякімі іншымі справамі, а тым больш выходзіць замуж. Таму і адмовіла 17-гадовая дзяўчына Кейстуту, не зважаючы на ягоную высокую пасаду. Ды не такі быў вялікі князь, каб згадзіцца. Тым больш што Бірута сапраўды разбіла ягонае сэрца, не мог ён пакінуць яе самотнай і адзінокай. Загадаў слугам, і тыя выкралі Біруту з капішча. Кейстут прывёз прыгажуню ў Трокі і ў 1348 годзе адбыўся іхні шлюб. Замест служэння багам Бірута стала служыць сям'і. Нарадзіла шасцёра сыноў і чатырох дачок. Самым знакамітым з роду стаў сын Вітаўт, якога людзі за ягоныя справы яшчэ пры жыцці назвалі Вялікім. Да гэтага часу ў Палангзе знаходзіцца гара Біруты, дзе яна была пахавана. А пра Кейстута і Біруту народ стварыў нямала легенд і паданняў, відаць, для таго, каб уславіць і ўшанаваць сапраўдную шчырасць узаемаадносін мужа і жонкі.

У 1390 годзе Вітаўт аддаў сваю адзіную дачку Соф'ю, маці якой Ганна была сястрой смаленскага князя Юрыя Святаславіча, за будучага вялікага князя маскоўскага і ўладзімірскага Васіля I – старэйшага сына вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога. Вось які выкрутас гісторыі. Не надта даўно, усяго 6 гадоў таму, вялікі князь літоўскі Ягайла меў намер пашлюбіцца з дачкой Дзмітрыя Данскога Соф'яй, а зараз іншая Соф'я ўехала ў сталіцу Вялікага княства Маскоўскага паўнаўладнай гаспадыняй.

Унук Гедыміна Дзмітрый Карыятавіч ажаніўся ў 1356 годзе з дачкой маскоўскага князя Івана II Краснага.

Дачка Дзмітрыя Данскога Марыя ў 1394 годзе выйшла замуж за сына вялікага князя літоўскага Альгерда Лінгвена (Лугвена) Сымона, які быў князем Вялікага Ноўгарада.

Дачка полацкага князя Брачыслава Васількавіча Аляксандра (Параскева) была жонкай вялікага князя кіеўскага і ўладзімірскага Аляксандра Неўскага. А сам Брачыслаў меў за жонку князёўну смаленскую.

У красавіку 1424 года да Вітаўта ў Гародню прыехалі паслы імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі і караля венгерскага Сігізмунда з просьбай аб садзейнічанні ў падпісанні шлюбнага дагавора з Ягайлам наконт шлюбавання Ядвігі, ягонай дачкі ад другой жонкі, і памеранскага князя Багуслава. Каб задобрыць Вітаўта, вельмі хвалілі яго, казалі, што сваімі дзеямі і славай ён нагадвае цэсара. Аднак яшчэ раней Ягайла падпісаў шлюбны дагавор Ядвігі з маркграфам брандэнбургскім. Таму дамовы не атрымалася.

Як можна меркаваць з пераліку толькі гэтых прыкладаў, гаспадары Княства часта не жадалі прывязваць сябе і сваё гаспадарства да палітыкі нейкай адной дзяржавы, каб не залежаць самім і не ставіць у залежнасць лёс гаспадарства. Мець добрыя стасункі з рознымі суседзямі (і не толькі) было больш выгадна, чым з кімсьці сварыцца і наклікаць небяспеку.

Цікавы жыццёвы лёс выпаў рускаму князю Андрэю Курбскаму, які ў свой час уцёк ад рускага цара Івана Грознага ў Вялікае Княства Літоўскае. Ён не толькі жыў у Крэўскім замку, але нават парадніўся з родам князёў Гальшанскіх. А праз гэта, можна сказаць, з дынастыяй Ягелонаў-Ягайлавічаў, якая пачалася ад Соф'і Гальшанскай і Ягайлы. У 1571 годзе Курбскі ажаніўся з багатай удавой пасля луцкага кашталяна Міхаіла Казінскага Марыяй Юр'еўнай Казінскай. Яна паходзіла з роду Гальшанскіх, была дачкой Юрыя Іванавіча, ваяводы кіеўскага ў 1508–1510 гадах, сястрой апошняга гальшанскага князя Сямёна Юр'евіча Дубровіцкага. Курбскі на многае разлічваў ад гэтага шлюбу. Аднак далёка не ўсе спадзяванні спраўдзіліся. Праўда, у высокі свет знакамітых вялікалітоўскіх родаў ён увайшоў. Стаў блізкі з Сапегамі, Сангушкамі, Валовічамі і іншымі магнатамі. Аднак у 1579 годзе Курбскі развёўся з Марыяй і ажаніўся з небагатай дзяўчынай Аляксандрай Сямашка, меў ад яе дачку Марыю і сына Дзмітрыя.

А ў нашай з вамі даўняй гісторыі, у тым ліку гісторыі шлюбаванняў магнатаў Радзівілаў, чаго толькі не адбывалася!

**Шлюб стрыечных брата і сястры.** Так, быў і такі выпадак сярод знакамітага роду Радзівілаў. Ваявода віленскі, вялікі гетман літоўскі кальвініст Януш Радзівіл насуперак волі свайго бацькі – вялікага гетмана літоўскага, ваяводы віленскага Крыштофа Радзівіла – у 1638 годзе ўзяў шлюб з каталічкай Кацярынай Патоцкай. Аднак праз чатыры гады жонка памерла, пакінуўшы дачку Ганну Марыю. Пераадолеўшы розныя перашкоды, яна стала пазней жонкай стрыечнага дзядзькі стрыечнага брата свайго бацькі Багуслава Радзівіла з біржайскай галіны, які валодаў Слуцкам і быў паплечнікам яе бацькі ў змаганні за лёс Вялікага Княства Літоўскага.

**Жаніцьба на чужым вяселлі.** Адзінаццатым нясвіжскім ардынатам і апошнім гаспадаром Нясвіжскага замка быў Дамінік Геранім Радзівіл. Той самы, які выступаў на баку Напалеона ў вайне 1812 года. Аднак у гісторыі нясвіжскі князь застаўся і дзякуючы свайму незвычайнаму шлюбу. Была ў яго стрыечная сястра прыгажуня Тэафіля Ігнатаўна Мараўская. 15 сакавіка 1807 года яна выходзіла замуж за графа Юзафа Старжынскага, вяселле адбывалася ў Менску. Гуляў на вяселлі і Дамінік. На той час ён ужо быў жанаты з Ізабэлай Мнішак (вяселле адбылося 3 лютага 1807 года). Але сэрцу не загадаеш.

Шумнае шлюбнае застолле не звярнула ўвагі, што ў нейкі момант князь выйшаў з-за стала. Не заўважылі госці і таго, што следам за ім рушыла нявеста – Тэафіля. Але не праветрыцца рашылі. Князь пасадзіў Тэафілю ў сваю карэту і – дай Бог ногі. Апамяталіся сваякі і госці, ды позна. Дамінік з Тэафіляй апынуліся ў Аўстрыі: вырашылі стаць мужам і жонкай, нават не чакаючы афіцыйнага разводу. Тут 29 лютага 1808 года ў іх нарадзіўся пазашлюбны сын Аляксандр Дамінік. А пасля разводу Тэафілі на свет з'явілася дачка Стэфанія, якая ў 1829 годзе стала жонкай Льва Вітгенштэйна – сына расійскага фельдмаршала графа Пятра Вітгенштэйна. Калі Дамінік памёр, Тэафіля ў 1816 годзе выйшла замуж за рускага князя Аляксандра Іванавіча Чарнышова – знанага дзеяча рускай разведкі і арміі. Аднак і гэты шлюб быў для Тэафілі нядоўгім – праз 3 гады яна з іншым абраннікам з'ехала ў Парыж.

**Жонка ўцякла ад мужа.** У тым жа родзе Радзівілаў на шлюбным фронце здараліся і зусім неверагодныя гісторыі. Ад некаторых з іх уцякалі нават жонкі. Князь Геранім Вінцэнт Радзівіл – сын Радзівіла Рыбанькі, падкаморы вялікі літоўскі, староста мінскі – 31 снежня 1775 года ажаніўся з нямецкай прынцэсай Соф'яй Даратэяй фон Турн-і-Таксіс. Гэты шлюб парадніў вялікалітоўскага магната Гераніма Радзівіла з многімі еўрапейскімі дынастыямі. Яны мелі чатырох сыноў, але тры памерлі малалетнімі. А 17 студзеня 1784 года выбухнуў грандыёзны скандал. Соф'я Даратэя разам са сваім каханкам тайна ўцякла з Нясвіжа. Геранім кінуўся ў пагоню і дагнаў іх у Тыльзіце, на мяжы з Прусіяй. Каханкам княгіні аказаўся вядомы чэшскі кампазітар Ян Уладзіслаў Дзюсек, які ў сакавіку 1783 года выступаў у Варшаве, адкуль адправіўся ў Нясвіж. Пасля стодзённага палону Дзюсек уцёк. У студзені 1786 года Геранім развёўся з жонкай, у якой неўзабаве нарадзіўся сын Дамінік Геранім, апошні ўладальнік Нясвіжа. 18 верасня 1786 года ва ўзросце 27 гадоў Геранім Радзівіл памёр. Ягоныя ўладанні перайшлі па спадчыне малалетняму Дамініку.

**Шлюбныя стасункі Радзівілаў і Кенэдзі.** Малодшая сястра жонкі амерыканскага прэзідэнта Жаклін Кенэдзі – Лі – была замужам за князем Станіславам Альбрэхтам Радзівілам (1914–1976). Станіслаў узяў шлюб з Лі Буўе 19 сакавіка 1959 года. Абое былі ў шлюбе не першы раз. Радзівіл – трэці, Лі – другі. Жылі больш у Англіі, чым у ЗША, Станіслаў пахаваны ў Лондане. У іх быў сын Энтані і дачка Ганна Хрысціна. Аднак пасля 15 гадоў сумеснага жыцця яны развяліся. Станіслаў Альбрэхт з'яўляецца прадстаўніком роду Радзівілаў у 15-м пакаленні. Яго бацька – польскі сенатар Януш Радзівіл, маці – Ганна з Любамірскіх. Джон Кенэдзі быў хросным бацькам дзяцей Радзівіла, а Станіслаў хрысціў дзяцей амерыканскага прэзідэнта. Як згадвае сённяшні (2017 год) жыхар Варшавы Мацей Радзівіл (г.н. 1961), у чэрвені 1961 года прэзідэнт ЗША спецыяльна прыехаў у Лондан, каб ахрысціць Ганну Радзівіл, а да гэтага Станіслаў Радзівіл хрысціў Джона Кенэдзі-малодшага.

Гэта толькі некаторыя з вялікага мноства прыкладаў незвычайных шлюбаванняў, што адбываліся калісь і на нашых землях.

А зараз давайце паразважаем і пра нашых жанчын, лёс якіх цесна знітаваны з дзяржаўнымі клопатамі, пазначаны не толькі прыгодамі, а і вялікімі і значнымі справамі дзеля карысці сваёй зямлі.

*(Працяг будзе.)*

ДА ВЕДАМА

## Да 14 жніўня самалётам у Маскву не паляцім

Кіраўніцтва кампаніі "Белавія" вырашыла адкласці палёты ва ўсе пункты Расіі да 14 жніўня, а ў Краснадар і Сочы – да 15 жніўня.

**У Грузію** можна будзе паляцець самалётам толькі пасля 31 жніўня.

Такое позняе аднаўленне паветранай сувязі з замежжам звязана з каранавіруснай сітуацыяй.

Галіна РАДКЕВІЧ.

КОРОТКО

## Кинофестиваль «Лістапад» пройдет 6–13 ноября

***Фестиваль планируется провести в оффлайн-формате с показами кино на большом экране, лекциями, встречами, торжественными церемониями, живым и искренним общением между профессионалами индустрии и любителями кино.***

Организаторы отмечают, что с учетом эпидситуации будет сделано все возможное для организации комфортных и безопасных встреч со зрителями.

## Кто поедет на детское «Евровидение»?

***Прием заявок для участия в нацотборе на детское «Евровидение-2020» завершается 15 августа.***

Итоги отборочного тура будут подведены не позднее 24 августа, дата и формат проведения нацотбора на конкурс объявят до 7 сентября.

## «Белую Вежу» перенесли на 2021 год

***Такая информация опубликована на сайте Брестского академического театра драмы.***

«Это непростое решение было принято, чтобы обезопасить гостей и участников фестиваля, работников театра и зрителей. Мы бы хотели, чтобы юбилейный XXV фестиваль «Белая Вежа» стал большим праздником и не был омрачен никакими рисками», – сказали в театре.

«Белая Вежа» учреждена в 1996 году. Фестиваль профессионального театрального искусства ежегодно проводят в Бресте в сентябре.

УСМІХНІЦЕСЯ...

## Анекдот у нумар

*– Скажы, за каго ты галасаваў, – і я скажу, хто ты.*

Перадаў у рэдакцыю Вячаслаў ВОЛЬСКІ.

